

№ 12 (125)

Сакавік 2006 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года


## У нумары:




**Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь**
**Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя Максіма Танка**


## Інфармацыйнае паведамленне

### пра Рэспубліканскую навукова-метадычную канферэнцыю «Краязнаўчая адукацыя і грамадзянскае выхаванне»

Кафедра этналогіі і фалькларыстыкі ўстановы адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя Максіма Танка» запрашае педагогаў установ адукацыі на Рэспубліканскую навукова-метадычную канферэнцыю «Краязнаўчая адукацыя і грамадзянскае выхаванне», якая адбудзецца 22 красавіка 2006 года.

Мэта канферэнцыі – **пошук і выкарыстанне педагагічных сродкаў краязнаўства дзеля фармавання асобы грамадзяніна, адказнага за лёс краіны.**

Праблемнае поле канферэнцыі:

- гісторыя і тэорыя краязнаўчай адукацыі і грамадзянскага выхавання;
- фальклорна-этнаграфічны аспект краязнаўчага навучання і нацыянальна-патрыятычнага выхавання;
- экалогія і краязнаўства;
- вопыт і методыка выкладання інтэграванага курса па раённым краязнаўстве;
- пошукава-даследчая праца і развіццё творчых здольнасцей навучэнцаў;
- праз любоў да гісторыі і культурнай спадчыны раёна да фармавання патрыёта айчыны, роднай Бацькаўшчыны;
- фармаванне асобы сучаснага грамадзяніна, выхаванне актыўнай грамадзянскай пазіцыі.

Заяўкі на ўдзел у канферэнцыі, матэрыялы дакладаў і паведамленняў, праграмы інтэграваных курсаў па раённым краязнаўстве дасылаць на адрас: *220007, Мінск, вул. Магілёўская, 37, п. 341. Кафедра этналогіі і фалькларыстыкі.* Матэрыялы, атрыманыя да 1 сакавіка 2006 г., будуць выдадзены ў зборніку матэрыялаў канферэнцыі.

Патрабаванні да матэрыялаў. **Аб'ём дакладаў і паведамленняў – да 3 старонак фармата А4, праграм – да 12. Матэрыялы прадастаўляюцца ў двух асобніках: першы – дыскета, другі – раздрукоўка на паперы.**

Першы радок – імя і прозвішча аўтара (выраўніванне па левым краі), пад ім у дужках – назва арганізацыі, установы. Праз радок назва матэрыялаў, набраная прапіснымі літарамі. Праз радок набіраецца асноўны тэкст. Спіс літаратуры ў канцы матэрыялаў. Спасылкі ў дакладах з выкарыстаннем квадратных дужак. Праграмы (тыпу «Мінсказнаўства», «Міншчыназнаўства», «Валожыншчыназнаўства») афармляюцца згодна прынятага парадку. Пасля «Тлумачальнай запіскі» уключаецца раздзел «Пашпарт раёна» (кароткае энцыклапедычнае апісанне да 2 старонак). Усе матэрыялы набіраюцца ў тэкставым рэдактары MS Word-95 – Word-2002 шрыфтам Times New Roman, вышынёй 12 пунктаў. Палі: левае 3 см, правае – 1 см, верхняе і ніжняе – 2,5 см.

Разам з заяўкай указваюцца звесткі пра ўдзельніка канферэнцыі: прозвішча, імя, імя па бацьку; навуковая ступень, званне (калі маецца); пасада; установа адукацыі (арганізацыя); адрас дамашні і службовы, тэлефоны; тэма даклада ці назва праграмы.

Выдаткі на праезд за кошт камандзіруючай арганізацыі.

**Тэлефон для даведак:**

Кафедра этналогіі і фалькларыстыкі – (017) 227-43-63.

***(Працяг тэмы – на старонцы 6)***



## «...пусть в силу обратится боль!»

***«Вовек не забыть обвиняющий взгляд Иосифа Каминского, протягивающего грядущим столетиям бездыханное тело сына».***

***Гэта пранікнёныя словы уругвайскага паэта Мануэля Гарсія Пуэртаса. 22 сакавіка 2006 г. якраз споўнілася 63 гады з дня страшэннай трагедыі. 186 вёсак Беларусі падзялілі жудасны лёс Хатыні. А ўсяго 2 мільёны 230 тысяч чалавек склалі ахвяры Беларусі ў час вайны. 260 канцлагераў і лагераў смерці стварылі акупанты на тэрыторыі нашай краіны.***

***За што? – пытаецца ў Хатыні нямая постаць Іосіфа Камінскага. І не знаходзіць адказу. Са дня адкрыцця мемарыяла «Хатынь» яго наведала больш 35 мільёнаў чалавек з больш чым ста краін свету.***

Мабыць, аднымі з першых наведвальнікаў створанага мемарыяла былі мы, партапаратчыкі аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ. Узначальваў паездку тагачасны загадчык аддзела Аляксандр Трыфанавіч Кузьмін. Як толькі павярнулі з лагойскай дарогі да Хатыні, хтосьці заўважыў: «Дык гэта ж ідзе Камінскі!» Запрасілі дзядзьку ў аўтобус і паехалі да святога месца. У мяне ёсць здымак, на якім мы сфатаграфаваны ўсе гуртам, і Камінскі вядзе з намі размову.

А пачаў яе дзядзька Іосіф завучанымі на памяць трафарэтнымі ўжо словамі: «Фашысты раніцой напалі на нашу краіну...» І гэтак далей. «Ну, нашы прапагандысты пастараліся, – падумалася. – Мабыць, так і размаўляе кожны раз з наведвальнікамі музея». Выручыў Кузьмін. Ён тактоўна перапыніў Камінскага: «Мы пра гэта добра ведаем. Раскажыце, калі ласка, пра сябе, сваю сям'ю, пра суседзяў. І як тут усё жудасна адбылося».

Увачавідкі Камінскі знікавеў, твар стаў пакутным, голас задрыжаў, на вачах выступілі слёзы. Пайшла цяжкая размова з чалавекам, які перажыў у сваім жыцці страшэнную трагедыю...

М. Міхайлаў, былы першы сакратар ЦК УЛКСМ, адзін раз па запрашэнні П.М. Машэрава быў госцем у Мінску, з ім прыбыў намеснік міністра культуры па кнігавыдавецкай справе ГДР, немец ужо ў гадах. Пасля вайны працаваў пракурорам, судзіў многіх нацысцкіх злачынцаў у сябе на радзіме. Тут, у Мінску, Міхайлаў і яго калега з ГДР збіраліся заключыць пагадненне паміж дзвюма кнігавыдавецкімі інстанцыямі на будучы год. Я «апякаў» высокіх гасцей. У праграме аказалася, як заўсёды, і наведванне Хатыні, толькі што пабудаванага помніка ахвярам нацызму, які яшчэ не набыў сусветную вядомасць. Была ўжо глыбокая восень, пахмурна, а як прыехалі ў Хатынь, пачаўся занудлівы дождж. Экскурсаводам нашым прызначылі былога палкоўніка, апранутага ў плашч-накідку. З ваеннай дакладнасцю ён уклаў усе свае эмоцыі, каб паказаць здзекі акупантаў, падоўгу спыняўся ля кожнага экспаната. Немка, якая прыехала ў складзе дэлегацыі, з характэрнай для гэтай нацыі акуратнасцю рабіла поўны пераклад сказанага. Я бачыў, як пацямнеў з твару, неяк адразу ж панік гэты высокі, кастлявы з выгляду чалавек, як панурымі сталі астатнія члены дэлегацыі. Я падаваў знакі экскурсаводу, каб ён «закругляўся». Але той давёў сваю справу да канца, і калі я яго ўпікнуў за залішнюю дэталізацыю, то адстаўны палкоўнік абурыўся: «Молодой человек, я прошёл войну от звонка до звонка. Не то ещё видел. И пусть знает вот этот гость, что они натворили на нашей земле». Што ж, бывалы салдат меў рацыю. У «маіх» немцаў прапала ўсякая ахвота да размоў, моўчкі мы дабраліся да асабняка ў Вайсковым завулку, дзе размяшчалася дэлегацыя. Высокі госць адразу ж направіўся ў свой пакой і адмовіўся ад вячэры. «Што вы там яму паказалі і аб чым гаварылі?» – заклапочана запытаўся, гледзячы на мяне, Міхайлаў. Я стаў нешта гаварыць пра дрэннае надвор'е, дождж, што яшчэ болей уплывалі на эмоцыі кожнага, хто ў той час знаходзіўся ў Хатыні, што нават так падзейнічала і на былога нямецкага пракурора...

Мінск наведала вялікая група французаў – распаўсюджвальнікаў газеты «Юманітэ». Згодна з праграмай іх знаходжання, я і Генадзь Бураўкін, які тады працаваў карэспандэнтам «Праўды» па нашай рэспубліцы, павезлі тых газетных актывістаў у Хатынь. Дзень быў цудоўны, наладжаны ў іх гонар абед таксама спрыяў добраму настрою. «О, Арадур, Арадур», – загаманілі госці, як даведаліся пра нашу паездку ў Хатынь. Па дарозе спявалі песні. Генадзь Бураўкін з імпэтам чытаў свае вершы.

З Хатыні нашы госці вярталіся паніклыя, самотныя, без усякага настрою. І якія там песні, нават размовы ніякай паміж сабою не чулася. «Трэба выручаць становішча», – звярнуўся я да перакладчыцы. Вадзіцелем аўтобуса быў добры мой знаёмы. Да таго ж «морж», купаўся ў рачной вадзе нават у люты мароз. Я звярнуўся да шафёра: «Раскажы пра сваю загартоўку цёплалюбівым французам». Узяў мікрафон і праз перакладчыцу запрасіў экскурсантаў паслухаць вадзіцеля аўтобуса. «О, морж, морж», – ажывіліся госці. Ехаць стала трохі весялей.

***Хатынь – у Беларусі, Лідзіцэ – у Чэхаславакіі, Арадур – у Францыі, Асвенцым – у Польшчы, Красуха – у Расіі, Бабін Яр – ва Украіне. Горкая памяць людская. Праўда, у наш «цывілізаваны» час аб'ёмы гэтага гора значна ўзбуйнелі. Напрыклад, Югаславія, Афганістан, Ірак, Палесціна... Хто наступны?***

***Паводле кніг Аркадзя ТОЎСЦІКА «Лістапад» і «Вяртанне да вытокаў сваіх»***

## Беларускі Усход

Шмат цікавых мясцінаў на Беларусі. Сярод іх мноства я аднойчы ўпадабаў самую ўсходнюю кропку нашай краіны, што знаходзіцца, паводле геаграфічных дадзеных, на 53°24' паўночнай шыраты і 32°47' усходняй даўгаты, г. зн. – на ўсход ад Хоцімска.

І вось – падарожжа. На яго пачатку па атласе ўдакладніў месцазнаходжанне гэтай самай кропкі, што на ўсход ад вёскі Гаўрылаўка Хоцімскага раёна. Зрабіўшы ксеракопію карты, выправіўся ў дарогу.

На світанку 22 чэрвеня мінулага года сеў у цягнік Гродна–Унеча, на якім дабраўся да станцыі Камунары (г. Касцюковічы), адкуль прыгарадным аўтобусам адолеў 33-х кіламетровую адлегласць да самага ўсходняга райцэнтра. Як высветлілася ў Хоцімску, аўтобусаў да Гаўрылаўкі няма (наколькі я зразумеў расклад руху), а таму вырашыў бегчы туды (займаюся лёгкай атлетыкай).

Па асфальтаванай шашы, адолеўшы 8 кіламетраў, дабег да Ліпаўкі – цэнтра самага ўсходняга на Беларусі сельсавета. Дарэчы, пісьменнік Ярслаў Пархута ў сваіх нарысах памылкова назваў Ліпаўку самай усходняй вёскай краіны. За ёй асфальт скончыўся, але грунтоўка не псавала настрою.

Поле, кустоўе абапал дарогі, паварот – і вось на далягладзе паказаліся хаты доўгачаканай Гаўрылаўкі! Дарэчы, на Хоцімшчыне назвы вёсак з фармантам -аўк- досыць распаўсюджаныя (я, прынамсі, налічыў тры дзесяткі). Калі стаў побач з дарожным указальнікам з надпісам "Гаўрылаўка", адчуў сябе добра, амаль так, як падчас знаходжання на гары Дзяржынскай – самай высокай кропцы Беларусі.

Гаўрылаўка расчаравала: на адзінай вуліцы сярод прыкладна двух дзесяткаў дамоў налічыў толькі тры жылыя сядзібы. З пэўным сумам прайшоўся па вуліцы. Вёска скончылася, а дарога бегла далей, каб праз нейкі кіламетр дасягнуць ручаіны, па якой і праходзіць дзяржаўная мяжа. Безумоўна, скарыстаўся магчымасцю пабыць у Расіі, на Смаленшчыне. За ручаінай ізноў распачаўся асфальт, але вёска Пятроўка, куды прывяла мяне стужка дарогі, аказалася нежылой – і вельмі сумна было блукаць там.

Нарэшце, зваротны крос: Гаўрылаўка, Ліпаўка, Узлогі (крыху змяніў маршрут) і Хоцімск. Вяртаючыся, крыху шкадаваў, што не паразмаўляў з жыхарамі Гаўрылаўкі, і думаў пра тое, як добра было б неяк ушанаваць такую знакавую кропку на карце нашай Радзімы.

Такім вось я пабачыў Беларускі Усход.

*Юрась КАЛАСОЎСКІ, студэнт ВДУ імя П.М. Машэрава*




**Рыкуноў** Аляксандр Мікалаевіч (н. 26.08.1950, г. Рагачоў Гомельскай вобл.), навуковы супрацоўнік Рагачоўскага музея. Настаўнікамі лічыць У. Пахадзенку і М. Камарова. Даследуе археалогію і гісторыю Рагачоўшчыны.

**Рац** Рувім Якаўлевіч (н. 19.06.1924, г. Верхнядзвінск Віцебскай вобл.), працаваў дырэктарам школы ў Верхнядзвінску. Краязнаўствам займаецца з 1954 г. Вывучае гісторыю горада і раёна. Удзельнік стварэння раённай кнігі «Памяць».

**Сабалеўскі** Антон Аляксандравіч (н. 17.11.1926, г. Мінск), ваенны будаўнік, палкоўнік. Жыве ў Маскве. Скончыў Беларускі палітэхнічны інстытут (1951). Настаўнікам лічыць свайго бацьку (Алеся Антонавіча Сабалеўскага). Вывучае дзейнасць бацькоў – дзеячаў беларускага школьніцтва ў 1920-я гг., беларускі рух у час нямецкай акупацыі.

Тв.: Этнографический очерк Н.Н. Улащика о родной Вицковщине (опыт личного прочтения) // М.М. Улашчык і праблемы беларускай гістарыяграфіі, крыніцазнаўства і археаграфіі. Мн., 1997; Роздум над фотаздымкамі // Скарыніч. Вып. 4. Мн., 1999.


Р. Рац


А. Самусік

**Сайтава** Валянціна Іванаўна (н. 02.10.1951, в. Пладовая Мастоўскага р-на Гродзенскай вобл.), кандыдат педагагічных навук (1991), дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры. Скончыла Мінскі педінстытут (1973). Да краязнаўства далучылася падчас вучобы ў Луненскай СШ Мастоўскага раёна. Настаўнікамі лічыць М. Семака і Л. Амяльковіч. Распрацавала вучэбны курс «Бібліяграфічнае краязнаўства». Аўтар публікацый па гісторыі краязнаўства.

Тв.: Журнал «Ateneum Wileńskie» // Библиография. 1999. № 5.

**Самусік** Андрэй Фёдаравіч (н. 20.11.1972, г. Мінск), кандыдат гістарычных навук, дацэнт. Скончыў гістарычны факультэт БДУ (1995). Працаваў лабарантам у музеі гісторыі БДУ (1996), у 1998–2000 гг. асістэнтам, а з 2000 – дацэнт Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта. Краязнаўчую дзейнасць пачаў падчас навучання ў аспірантуры пры БДУ у 1995 г. Сваімі настаўнікамі лічыць А. Трусава, М. Ткачова, А. Федарука, П. Шпілеўскага, А. Кіркора. Вывучае і даследуе архітэктурныя шэдэўры Беларусі часоў феадалізму, помнікі гісторыі. Удзельнік рэспубліканскіх навуковых канферэнцый. Аўтар шматлікіх публікацый у навуковым і перыядычным друку, а таксама тэкстаў краязнаўчых праграм на беларускім тэлебачанні.

Тв.: Помнікі гісторыі і культуры Беларусі: Вучэбны дапаможнік. Мн., 2004.



## Арбіты жыцця касманаўта Кавалёнка



На Мінскім міжнародным кніжным кірмашы, які праходзіў у пачатку лютага, адбылася прэзентацыя новай кнігі нашага славутага земляка, двойчы Героя Савецкага Саюза, лётчыка-касманаўта Уладзіміра Васільевіча Кавалёнка. «Арбіты жыцця» – такую сімвалічную назву даў кніжцы аўтар, і яна найлепшым чынам адпавядае зместу, бо такіх арбіт, на якія раз за разам пераходзіў Уладзімір Кавалёнак, было некалькі. Першая – дзяцінства і юнацтва, школа і ваеннае вучылішча. Затым служба лётчыкам ваенна-транспартнай авіяцыі.

Новая арбіта – залічэнне ў атрад касманаўтаў, падрыхтоўка, а потым удзел у трох касмічных палётах. Пасля іх Уладзімір Кавалёнак служыў у Зорным гарадку, прымаў удзел у падрыхтоўцы міжнародных экіпажаў, якія лягалі па праграме «Інтэркосмас».

На высокія службовыя арбіты ўзняла яго вучоба ў Акадэміі Генеральнага штаба, абарона дыпломаў кандыдата, а пазней доктара ваенных навук. Далей была служба ў авіяцыі на пасадзе намесніка камандуючага Паветранай арміяй стратэгічнага прызначэння, выкладчыцкая праца ў Акадэміі Генеральнага штаба. Дзесяць гадоў Уладзімір Кавалёнак кіраваў Ваенна-паветранай інжынернай акадэміяй імя М. Жукоўскага.

Пра ўсе гэтыя сапраўды высокія арбіты жыцця і расказваецца ў кнізе. Выдадзена яна ў Маскве фірмай РТСофт. У ёй каля трохсот старонак, 280 ілюстрацый, змешчана нямала копій дакументаў. На кірмашы быў прадстаўлены сігнальны асобнік, а ўвесь наклад тады толькі друкаваўся. У расійскіх і беларускіх кнігарнях кніга-фотаальбом «Арбіты жыцця» з'явіцца хутка.

Хочацца нагадаць, што ў 1989 годзе ў Мінску выдавецтва «Юнацтва» выпусціла першую кнігу Уладзіміра Кавалёнка – «Радзіма крылы дала». Гэта таксама быў расказ аб уласным жыцці, аб касмічных і зямных яго арбітах. У параўнанні з тым першым выданнем другое не толькі дапоўнена аповедам аб новых вітках жыццёвых арбіт, але і па-новаму, больш адкрыта і раскавана раскрывае незвычайны лёс хлопчыка з беларускай вёскі Белае, якому давялося стаць адным з першых касмічных падарожнікаў.

У прэзентацыі ўдзельнічаў сам аўтар, ён адказаў на пытанні, расказаў пра тое, як рыхтавалася і выдавалася кніга, пра свае жыццёвыя і творчыя планы.

*Міхась КЕНЬКА (фота аўтара)*

## Наш каляндар

14 сакавіка споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння **Лідзіі Саулаўны МУХАРЫНСКАЙ**, беларускага савецкага музыказнаўца, фальклрыста, педагога. Будучы кандыдат мастацтвазнаўства (1969), дацэнт (1970), заслужаны дзеяч мастацтва БССР (1974), нарадзілася ў горадзе Тбілісі. У 1939-м скончыла Маскоўскую кансерваторыю. Удзельнічала ў Вялікай Айчыннай вайне. У 1939–1941 гадах і з 1948-га выкладала ў Беларускай кансерваторыі. Вывучала генетычную прыроду, семантыку і эстэтычную сутнасць народнай музыкі. Аўтар вялікай колькасці навукова-папулярных прац. Сярод іх «Беларуская народная партызанская песня. 1941–1945» (1968), «Беларуская народная песня. Гістарычнае развіццё» (1977), «Да пытання аб эстэтычным асваенні рэчаіснасці ў сучаснай беларускай народна-песеннай творчасці» (1982). Удзельнічала ў міжнародных канферэнцыях па праблемах фальклору. Вялікая заслуга Лідзіі Саулаўны і ў прапагандзе праз друк, радыё, тэлебачанне беларускай народнай творчасці, музыкі беларускіх кампазітараў.



***1930-я гг., пажарныя добраахвотнікі з Косава***

*Фота прадастаўлена Ларысай МАКАРЭВІЧ*

## *Кароткі слоўнік* краязнаўча-прававой тэрміналогіі *беларускай старажытнасці*



***(Пачатак у № 3 за 2005 г.)***

**ПАБОРЦЫ** – службоўцы ў ВКЛ, якія збіралі падаткі.

**ПАБАВЕННЕ** (выклік на руку) – позва на паядынак, што забараняўся Статутам ВКЛ 1588 г., каб часамі і ў выніках правакацыі не гінулі лепшыя людзі дзяржавы. За самачыннасць маглі пакараць смерцю і пераможцу на паядынку. Вялікі князь («за велікімі і знаменітымі прычынамі паходзіцці маець»), а таксама і па яго дазволе ў войску гетман маглі даць згоду на смерценосны паядынак у выключным выпадку, што меў уплыў на многія лёсаносныя справы ў краіне.

**ПАВАЛАННЕ** – зварот-скарга ў суд пра ўчыненае зладзейства. Той, хто быў ці мог быць вінаватым, называўся паваланым.

**ПАВЕТ** – да сярэдзіны XVI ст. быў адміністрацыйна-судовай адзінкай у ВКЛ на землях, што кіраваліся старостам або намеснікам. Паводле новай рэформы 1564–1566 гг. былі канкрэтней вызначаны межы паветаў (іх у ВКЛ налічылі 30, 16 з якіх былі беларускімі па этнічным паходжанні, іншыя беларускія пасяленні ўваходзілі ў склад іншых паветаў). Паветы ўваходзілі ў склад ваяводстваў. Прыкладна такі падзел захоўваўся да канца XVIII ст., калі Польшча і ВКЛ былі падзелены і апошнія цалкам увайшло ў склад Расійскай імперыі, дзе яе кіраўніцтвам былі вызначаны новыя межы («уездов» і «губерний», што абсалютна не ўлічвала нацыянальных рыс насельнікаў.

**ПАГАНЕННЕ СЛЕДАМ** – пагоня за злачынцам пасланнікаў копнага суда ці іншых службоўцаў ВКЛ (вознага, апраўцы і інш.).

**ПАДАРОЖЧЫНА** – у XVI–XVIII стст. від феадальнага спагнання сродкаў, за якія сяляне павінны былі даваць магнатам падводы, каб перавозіць тавары да рачных прыстаней ці ў горад.

**ПАДАТКІ і ПАВІННАСЦІ** – законам устаноўленыя ў ВКЛ плацяжы і прымусовыя асабістыя і маёмасныя абавязкі насельнікаў у казну дзяржавы, магнатаў і царквы. У вёсках іх выконвала абшчына (грамада), якая аддавала даніну і інш., размяркоўваючы гэта па дварышчах і дымах. Часамі і на падставе мясцовых звычаяў. Гэта – дзякло і мезлева, што спаганяліся натурай (збожжа, сена, жывёла, мёд і інш.). Быў прадугледжаны і перавод сялян на паншчыну. Працэс прыгоннага права ўстаноўліваўся трыма Статутамі ВКЛ – 1529, 1566, 1588 гг. Яны прадугледжвалі і такія рэчы, як плаціць сялянамі падаткі, будаваць і рамантаваць замкі, дарогі, масты, грэблі і г.д. І гараджане выконвалі свае павіннасці – як купцы, так і рамеснікі. Падаткі і павіннасці ў ВКЛ мелі рознае найменне: байдачнае, грэбельнае, дзесяціна, згоны, куніца, мастовае, мыт, падарожчына, пастожнае, саха, талака, чоп і інш.

## З бібліятэкі «КГ»

# «Бабруйская крэпасць»

У канцы 2005 года ў Бабруйску ўбачыла свет чарговая кніга мясцовага краязнаўца, доктара філалагічных навук Аляксея Ненадаўца «Бабруйская крэпасць». У кнізе вядзецца размова пра маловядомыя старонкі з гісторыі будаўніцтва знакамітай крэпасці. Пры гэтым аўтар выкарыстоўвае шматлікія дакументальныя і легендарныя звесткі, раскрываe некаторыя таямніцы, якія тычацца згаданай цытадэлі.

«З чаго пачыналася будаўніцтва крэпасці?» – такую назву атрымаў першы раздзел кнігі. У ім аўтар нагадвае, што пасля таго, як у канцы XVIII стагоддзя Бабруйск апынуўся ў складзе Расійскай імперыі, узнікла патрэба ўмацаваць новую дзяржаўную мяжу. Тагачасны Бабруйск сваім удалым геаграфічным становішчам не мог не прыцягнуць увагу інжынераў-фартыфікатараў. Але толькі незадоўга да нашэсця войск Напалеона тут пачаліся будаўнічыя работы. Вырашана было будаваць першакласную крэпасць, на стагоддзі. Праект (потым ён неаднаразова змяняўся) быў падрыхтаваны адораным афіцэрам Т.Я. Нарбутам, а само будаўніцтва узначаліў вядучы на той час спецыяліст у галіне ваеннай фартыфікацыі інжынер генерал-маёр Я.П. Фелькерзам. Пасля яго смерці, у канцы 1810 года, гэтую справу працягнуў інжынер палкоўнік С.С. Фёдараў.



*Крэпасць (з карціны Б. Залескага)*

Як развіваліся падзеі ў 1812-м, распавядаецца ў наступным раздзеле – «Айчынная вайна 1812 года». Аўтар кнігі цытуе А.І. Міхайлоўскага-Данілеўскага: «Ні адна крэпасць Расіі не прынесла столькі карысці, як Бабруйская ў 1812 годзе. Калі б не было там крэпасці, князь Баграціён не змог бы злучыцца з 1-ай арміяй да канца жніўня... Пераправа праз Бярэзіну ўвогуле б зрабілася немагчымай».

Пасля заканчэння вайны з Напалеонам будаўніцтва Бабруйскай крэпасці было працягнута («Працяг будаўніцтва»). Аб важнасці гэтага ваеннага аб'екта засведчыў і прыезд сюды ў 1817 годзе імператара Аляксандра І. З цягам часу стратэгічнае значэнне крэпасці некалькі зменшылася (дзяржаўная мяжа значна адышлла на захад). У 1868-м цытадэль перавялі з першага класа абароназдольнасці ў другі, у 1886-м яна ператворана ў крэпасць-склад. А ў 1897 годзе ўвогуле ліквідавана як стратэгічная адзінка.

У гісторыі Бабруйскай крэпасці XIX стагоддзе прыкметна яшчэ і тым, што тут актыўна дзейнічалі дзекабрысты. Аб гэтым падрабязна расказваецца ў раздзелах «Ваенныя сябры», «Дзекабрысты і крэпасць», «Таямнічая змова ў Бабруйскай крэпасці» і інш.

У перыяд Першай сусветнай вайны на базе гарнізона крэпасці была створана значная колькасць воінскіх падраздзяленняў, тут знаходзіўся перадавы артылерыйскі запас 1-ай і 2-ой армій Заходняга фронту, буйны артылерыйскі склад.

У гады Вялікай Айчыннай вайны крэпасць у Бабруйску выкарыстоўвалася акупантамі як лагер для ваеннапалонных. Гэты час напоўнены многімі трагічнымі падзеямі, у выніку якіх загінулі тысячы савецкіх людзей («Бабруйская крэпасць у перыяд Вялікай Айчыннай вайны»).

З цікавасцю чытаюцца і апошнія два раздзелы кнігі – «Легенды Бабруйскай крэпасці» і «Яны пакінулі свой след». У першай з іх аўтарам сабраны розныя гісторыі, якія тычацца Бабруйскай крэпасці. У другім – пададзены больш падрабязныя біяграфічныя звесткі пра тых людзей, хто адыграў найбольш значную ролю ў гісторыі крэпасці.

А заканчвае Аляксей Ненадавец сваю кнігу даволі сумнымі словамі: «...сёння ад Бабруйскай крэпасці мала што засталося з будынкаў, умацаванняў, і хоць яны афіцыйна лічацца гістарычным помнікам, але гэта толькі на паперы. Ніякіх асаблівых захадаў дзеля таго, каб захаваць уцалелыя фарты, казематы і бастыёны фактычна не прымаецца, больш таго, адбываецца паступовае (калі не сказаць хуткае) разбурэнне і забруджванне ўсяго, што яшчэ захавалася, што яшчэ можна зберагчы для нашчадкаў...»

Тыраж кнігі склаў 500 асобнікаў.

*Мікалай ШУКАНАЎ, супрацоўнік жлобінскай райгазеты «Новы дзень», краязнавец*

## Асоба ў краязнаўстве

# Чалавек і Грамадзянін — «пяюн роднага краю»

Люблю перачытваць успаміны Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча «З пройдзенага»: "Прыязджаючы штогод дадому, у апусцела-сіратлівую бацькоўскую хату, мушу абавязкова пастаяць на беразе Нёмана, пабываць на могілках і схадзіць у царкву". Думаю, а чаму мяне не цягне на сваё радавае котлішча хутара Ровеста (вёска Угрынь)? Напэўна, таму, што ён быў разбураны, знікла і сама назва Угрынь.

Люблю наведваць Новы Свержань (ля Стоўбцаў), дзе 30 сакавіка 1931 года нарадзіўся будучы знакаміты краязнаўца, выдатны пісьменнік, адметны вучоны, прафесар, бліскучы педагог, культуролаг Аляксей Пяткевіч. Я асабіста з ім быў незнаёмы. Але ў маёй кватэры вялікая колькасць яго кніг, лісты нашай перапіскі. Гэтаму чалавеку я зрабіў прысвячэнні ў сваіх кніжачках «Ці завіталі антычныя дзеячы на Палессе?» (2002) і «...У сэрцы любоў толькі не памірае» (2005).

Аляксей Міхайлавіч быў ініцыятарам стварэння пры Гродзенскім дзяржаўным універсітэце кафедры беларускай культуры, дзе спачатку працаваў дацэнтам, а потым і ўзначаліў яе. Яго праца вызначалася самаахвярнасцю, смеласцю ісці да нязведанага. У яго шмат вучняў, паплечнікаў, паслядоўнікаў.

Адной са сфераў жыцця, працы і дзейнасці Аляксея Міхайлавіча з'яўляецца краязнаўства. Ён стварыў тры унікальныя краязнаўчыя выданні: «Літаратурная Гродзеншчына: Мясціны. Людзі. Кнігі» (1996), «Людзі культуры з Гродзеншчыны. Даведнік» (2000), «Маршруты кніжнага слова: з гісторыі кнігі, друку на Гродзеншчыне» (2002).

Мне пашанцавала мець у сваім хатнім кнігазборы навукова-бібліяграфічнае выданне «Прафесар Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч. Бібліяграфічны агляд навукова-педагагічнай дзейнасці» (складальнік Ю. Пацюпа), якое выйшла накладам усяго 50 экземпляраў. Уражвае разнастайнасць і колькасць выдадзеных Аляксеем Пяткевічам кніг, брашур, публікацый у зборніках, часопісах і газетах – каля тысячы артыкулаў.

Вернемся да «З пройдзенага»:

*«...У 1957 г. я трапіў у Гродна. З той пары прайшло, па сутнасці, цэлае жыццё ў горадзе над Нёманам. Я тут не проста прыжыўся. Я стаў гродзенцам, для якога кожная драбніца старых вуліц і вулачак, унікальных помнікаў архітэктуры, старажытных каштанаў і ліпаў значная і дарагая. Тут выраслі ўжо мае ўнукі».*

У назвах артыкулаў пра А.М. Пяткевіча пішуць: "Пяюн роднага краю", "У творчым пошуку", "Удзячны выкладчыку", "Чалавек высокай нацыянальнай свядомасці", "Высокае слова – настаўнік", "У годнасць беларуса" і інш. Я цалкам з гэтым згодны.

*Разам з рэдакцыяй «Краязнаўчай газеты» віншую юбіляра. Жывіце доўга, шчасліва, дарагі Аляксей Міхайлавіч! Каб заўсёды Вы былі здаровым, вясёлым! Новых творчых дасягненняў!*

***Міхась МАЛІНОЎСКІ, правадзейны член Геаграфічнага таварыства, г. Баранавічы***





*Наш каляндар*

## 120-годдзе Ус. Фальскага

**Усевалад Фальскі** (7 сакавіка 1886 г. ці 8 сакавіка 1887), в. Лошыца (зараз у межах Мінска) – беларускі акцёр, тэатральны і грамадскі дзеяч. Пачаў стала працаваць у арганізаваным пры яго ўдзеле тэатральным гуртку ў 1913 г., адзін з першых закладваць асновы беларускага прафесійнага тэатра (тады ў Радашковічах у спектаклі выканаў ролю Якіма Сарокі з камедыі Я. Купалы «Паўлінка»). У 1918–1921 гг. прыклаў шмат намаганняў, каб аб'яднаць акцёрскія сілы, разам з І. Буйніцкім і Ф. Ждановічам быў адным з арганізатараў Першага беларускага таварыства драмы і камедыі, што адкрылася спектаклямі «Паўлінка» Я. Купалы і «У зімовы вечар» паводле Э. Ажэшкі ў памяшканні Мінскага гарадскога тэатра. Пазней былі пастаўленыя спектаклі «Пашыліся ў дурні» М. Крапіўніцкага, «Модны шляхцюк» К. Каганца, «Бязвінная кроў» Ул. Галубка і інш., дзе Ус. Фальскі выконваў галоўныя ролі. У 1921 г. ён стаў арганізатарам і кіраўніком Мінскага таварыства працаўнікоў мастацтва, старшынёй праўлення таварыства «Хата беларускага мастацтва».

Ус. Фальскі не абмяжоўваўся толькі прафесійнай дзейнасцю, у пераломныя і ў многім спрыяльныя для нацыянальнага адраджэння 1917–1919 гг. разам з іншымі актыўна змагаўся за аднаўленне беларускай дзяржаўнасці. У Часовым рабоча-сялянскім урадзе Беларусі (студзень 1919) быў прызначаны камісарам замежных спраў, але пабыў на гэтай пасадзе нядоўга ў сувязі з савецка-польскай вайной. У 1921-м быў супрацоўнікам аддзела мастацтва Наркамасветы БССР. І зноў жа няшмат: яго абвінавацілі ў антысаветызме і ў 1924 г. выслалі з Беларусі ў Смаленск.

Далейшы ягоны лёс невядомы.




***Фёдар Еўлашоўскі – калі не першы, то адзін з першых, хто творча заявіў пра сябе ў новым жанры беларускай літаратуры XVI–XVII стст. Ён стаўся аўтарам дыярыуша (лац. дзённік), дзе расказаў пра свой час і сябе.***

***Дыярыуш сцвердзіўся на аснове летапісаў і хронік, што ў XVI ст. пачалі страчваць калі не сухі, то строгі дзелавы запіс і белетрызавацца, набываць літаратурныя змест і форму. Пасля «Дыярыуша» Ф. Еўлашоўскага гэтым азначэннем пачалі называць розныя запісы дзённікавага характару, сямейныя хронікі, нататкі падарожжаў і ваенных паходаў, мемуары (творы С. і Б. Маскевічаў, Я. Сапегі, А. Філіповіча, Я. Цадроўскага і інш.).***

***«Дыярыуш» Ф. Еўлашоўскага пабачыў свет ажно праз тры стагоддзі, у 1886 г. Дык кім быў той пачынальнік арыгінальнага жанру, чый твор столькі «спаў» у варшаўскім архіве старажытнасцей і нарэшце дачакаўся свайго часу?***

***Але дамо слова навукоўцу Уладзіміру Свяжынскаму.***

# Дыярыуш і Еўлашоўскі

Беларускі грамадскі дзеяч і пісьменнік эпохі Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай нарадзіўся 7 лютага 1546 года ў мястэчку Ляхавічы Наваградскага ваяводства (цяпер – раённы цэнтр Брэсцкай вобласці). Паходзіў з дробнапамеснай шляхты.

Фёдар піша ў сваіх успамінах, што «в пятом року почато ме бавить наукою рускою», г. зн. вучыць беларускай мове. Паколькі «в тых часех в тэй нашей строне не было еще иньших наук», Еўлашоўскі атрымаў толькі беларускую і польскую грамату. Хаця тут жа прызнаецца, што яшчэ і «по-жидовски написать умелом».

У той час ішла Лівонская вайна. Яшчэ не дачакаўшыся васемнаццаці гадоў, Еўлашоўскі едзе на вайну. Баявое хрышчэнне ён атрымлівае ў вядомай Ульскай бітве 26 студзеня 1564 г., якая, як ён піша, «была нашым щасліва», г.зн. 10-тысячнае войска гетмана ВКЛ М. Радзівіла разбіла на чашніцкіх палях 30-тысячнае маскоўскае войска. Аднак далейшыя частыя паездкі на вайну з іх нягодамі хутка надакучылі Фёдару, які не ў ваеннай сферы бачыў сваё прызванне. З палёў бітваў ён вынес перакананне, што яго краю «пожитку не веле тэ войны приносили». У далейшым ён або ўхіляўся ад удзелу ў ваенных дзеяннях, або пасылаў замест сябе туды каго-небудзь са сваіх падданых.

У выніку ўжо праз два з нечым гады, у 1566 г., мы бачым Еўлашоўскага ў Вільні за выкананнем цывільнага абавязку – зборам падушнага падатку. Той год быў своеасаблівай вехай у жыцці Ф. Еўлашоўскага. У гэты час у Вялікім княстве Літоўскім набываў моц рэфармацыйны рух. Прыблізна з сярэдзіны стагоддзя пашыраецца адна з асноўных канкрэтных форм увасаблення гэтага руху – кальвінізм. У бытнасць сваю ў Вільні ён выпадкова трапляе ў кальвінісцкі збор на казанне «министров учоных» – кальвінісцкіх прапаведнікаў М. Вендрагоўскага і Касцініюса і, атрымаўшы ад гэтага казання «великую утеху», парывае з верай бацькоў – праваслаўем і прымае кальвінізм, якому захоўвае вернасць да канца жыцця. Займаючы невысокае становішча ў грамадстве, ён, дзякуючы сваёй працавітасці і стараннасці, здолеў назапасіць немалое багацце. Аб гэтым сведчаць вялікія сумы (тысячы коп), якія ён пазычаў, як бачна з дакументаў, свайму патрону Яну Гераніму Хадкевічу.

У тым жа 1566 г. княства было ахоплена моравай пошасцю, аднак Еўлашоўскі не спяшаўся пакінуць апанаваную эпідэміяй Вільню, не асцерагаючыся заражэння, хоць яго і папярэдзіў аб гэтым доктар Сэрпец, які там знаходзіўся. Між тым ён, ужо вяртаючыся неўзабаве дадому, адчуў у сабе сімптомы заразы (верагодна, англійскай потавай гарачкі) у выглядзе страт прытомнасці і галюцынацый, якія потым праследавалі яго ўсё астатняе жыццё, а ўрэшце рэшт сталі прычынай нyяздольнасці яго выконваць службовыя абавязкі.

Еўлашоўскі – цікавы сведка сваёй багатай на падзеі эпохі. У якасці павятовага дэпутата ён прымае ўдзел у працы Люблінскага сойма, на якім у 1569 г. адбылася лёсавызначальная для нашага краю падзея – Вялікае княства Літоўскае разам з Польшчай сталі часткамі новай канфедэратыўнай дзяржавы Рэчы Паспалітай (г.зн. была заключана так званая Люблінская дзяржаўная унія). Як сведка гэтага палітычнага акта, ён паслядоўна выкладае ўсе яго этапы, датуючы кожны з іх.

У гэты час у Еўлашоўскага пачашчаюцца прыступы хранічнай хваробы, пагаршаецца таксама стан здароўя засмучанай гэтым фактам маці. З 1572 г. ён пачынае служыць Мікалаю Крыштофу Радзівілу Сіротцы, ведучы яго справы ў судзе.

У 1576 г., знаходзячыся па сваіх службовых справах у Торуні, Еўлашоўскі знаёміцца з новым каралём Стэфанам Баторыем і венграмі, якія служылі пры каралеўскім двары. Фёдар за кароткі час здолеў заслужыць прыхільнасць і гэтага караля. Улетку 1577 г. Баторый, знаходзячыся пад Гданьскам, прысылае Еўлашоўскаму прывілей на пасаду мастаўнічага Пінскага і Сервецкага паветаў. У тым жа 1577 г., «уклопотаный вжо будучи», г.зн. стомлены ад жыццёвых нягод, Еўлашоўскі ажаніўся з праваслаўнай Ганнай Балатоўнай, сястрой Данілы Балотавіча, продак якіх, Антоній Балота, прыбыў у Літву з Масквы яшчэ пры вялікім князі Казіміры, а яго нашчадкі, «под паны некоторыми оселости боярские побравши», пасяліліся ў Шклове і ў іншых месцах. Ад гэтага шлюбу ў Еўлашоўскага нарадзілася дзевяць сыноў і пяць дачок.

Будучы ў 1578 г. на Варшаўскім сойме, Еўлашоўскі з задавальненнем зазначае, што «маршалковал межи послами наш литвин Лукаш Болько Свирский» (князь, удзельнік выпраўлення другой рэдакцыі Статута Вялікага княства Літоўскага). Гэтая заўвага разам з фактам, што свае ўспаміны ён напісаў па-беларуску, сведчыць аб такой выдатнай рысе асобы Еўлашоўскага, як яго мясцовы патрыятызм прадстаўніка ніжэйшых пластоў шляхецкага грамадства ў адрозненні ад буйной шляхты і магнатаў, якія ў гэты час актыўна паланізаваліся.

У 1595 г. Еўлашоўскі становіцца сведкам яшчэ адной важнай падзеі адыходзячага XVI стагоддзя – казацка-сялянскага паўстання пад кіраўніцтвам Севярына Налівайкі. Фармальным повадам для паўстання стала павешанне панам Каліноўскім бацькі Налівайкі. Еўлашоўскі выкладае ход падзеі ад пачатку да канца. Такая пільная ўвага з яго боку да паўстання можа быць вытлумачана небяспекай, якую яно ўяўляла для шляхты.

У атмасферы рэлігійнай варожасці, якую прынесла з сабой контррэфармацыя, Еўлашоўскі, які працягвае захоўваць вернасць пратэстантызму, усё часцей натыкаўся на непрыязныя адносіны да яго з боку прыхільнікаў польскай культуры і каталіцызму. На лютаўскай сесіі земскага суда 1602 г. ён не падтрымаў суддзю Васіля Зянкевіча, памочнікам (падсудкам) якога ў той час быў, і пана Падароўскага, якія хацелі, каб у княстве судовыя сесіі праводзіліся па польскім звычаі, у адзін час. Еўлашоўскі, як і ўся астатняя шляхта Наваградскага павета, хоць і быў папярэджаны суддзёй, не дазволіў ламаць старыя традыцыі і працягваў праводзіць суды па-старому. За гэта, на яго ўласную думку, яго спасцігла Боская кара, бо ў час бліжэйшай сесіі Альбрыхт Брухански разам са сваім шваграм Корсакам забілі ў Наваградку ягонага сына Яна.

Ад перажытага няшчасця абвастрылася хвароба Еўлашоўскага: пачасціліся выпадкі страты ім прытомнасці, з-за чаго ён ужо не быў у стане засядаць у судах. Таму на пасаду падсудка быў абраны спачатку Рыгор Няміра, затым Марка Палонскі. Завяршае свае ўспаміны Еўлашоўскі мартыралогам, у якім пералічвае факты смерці знаёмых яму людзей – падкаморага полацкага Яна Францкевіча, слугі Яна Гераніма Хадкевіча, Яна Адахоўскага, Паўла Віроўскага і Яна Высоцкага («швагрове два»), нясвіжскага старосты Войцаха Першкі, віленскага ваяводы Крыштофа Радзівіла Перуна, жамойцкага кашталяна Яна Нарушэвіча, валынскага ваяводы Аляксандра Астрожскага.

Польскі гісторык В. Сянкевіч, які апісвае розныя тагачасныя дакументы, спрабуе на іх падставе ўдакладніць дату смерці Еўлашоўскага. Паводле другога польскага гісторыка М. Сякерскага, Еўлашоўскі памёр пасля 1616 г. На выпісе з кніг земскіх наваградскіх побач з суддзёй і пісарам земскім названы і падсудак Фёдар Еўлашоўскі. На элекцыі ў Наваградку 18 ліпеня 1619 г. падсудкам быў ужо абраны Ян Красноўскі. Прымаючы пад увагу гэты факт, а таксама тое, што Ян Караль Хадкевіч (памёр 24 верасня 1621 г.) пасля смерці Еўлашоўскага адабраў у яго сыноў маёнтак Еўлашова, Сянкевіч лічыць, што Фёдар Міхайлавіч Еўлашоўскі памёр у першай палове 1619 г.

Вядомы расійскі гісторык І. Лапа назваў Фёдара Еўлашоўскага тыповым узорам шляхціца XVI ст. Безумоўна, у псіхалогіі, звычаях гэтага чалавека ёсць шмат чаго тыповага для яго асяроддзя. Аднак у сілу драматычных калізій свайго часу, што адбіліся на яго лёсе і ўчынках у выглядзе шэрагу дзіўных супярэчнасцей (сын праваслаўных бацькоў, кальвініст, падапечны князя-католіка, меў праваслаўную жонку і аддаў сваё дзіця ў арыянскую школу), ён – не тыповы ўзор шляхціца свайго часу. Узняўшыся па высокіх інтэлектуальных здольнасцях на ўзровень лепшых людзей эпохі, Еўлашоўскі пакінуў значны след у гісторыі нацыянальнай культуры. Ён – адзін з аўтараў каштоўнага ўзору даўняга беларускага права – статута Галоўнага Літоўскага трыбунала. Яго «Успаміны» – каштоўная крыніца па гісторыі Беларусі эпохі Сярэднявечча, а таксама выдатны твор даўняй беларускай літаратуры.

*Уладзімір СВЯЖЫНСКІ*




*Твор Ф. Еўлашоўскага ў кнізе 1983 года*



*«Дыспут» (гравюра Ф. Скарыны)*

Ад рэдакцыі. ***Калі хто з чытачоў пажадае пазнаёміцца з творам Ф. Еўлашоўскага, то напомнім: гэта можна зрабіць па кнізе «Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст.», выдадзенай у 1983 г. у выдавецтве «Навука і тэхніка». Дарэчы, там надрукаваныя і дзённікі Я. Цадроўскага (1617–1682 ?), які XVI стагоддзе лічыў залатым векам у беларускай гісторыі і культуры.***

## Краязнаўцы Міншчыны – на Уздзеншчыне

*9 сакавіка б.г. у мясцінах, адкуль бярэ пачатак славуты Нёман, адбыўся абласны семінар па выніках 2-га года IV этапа Усебеларускай турыстычна-краязнаўчай экспедыцыі «Наш край». На ім сабраліся прадстаўнікі амаль з усіх раённых гарадоў вобласці, якія працуюць у сістэме цэнтраў краязнаўства, дзіцячых дамоў творчасці, турызму і экскурсій, займаюцца пытаннямі экалогіі, вядуць метадычную работу ў гэтых накірунках.*

Семінар пачаўся ва Уздзенскай дзяржаўнай агульнаадукацыйнай сярэдняй школе № 3 з гімнастычнымі класамі, што ў такой форме працуе з 2003 года, мае 32 навучальныя класы, кабінет мастацтва, лінгафонныя кабінеты, спартыўныя залы і майстэрні, экалагічны і псіхалагічны цэнтры, бібліятэку, камп'ютэрны клас, кабінеты стаматалогіі і інш. Удзельнікаў семінара павіталі начальнік аддзела арганізацыйна-метадычнага забеспячэння турыстычна-краязнаўчай і эколага-натуралістычнай работы вучэбна-метадычнай установы: (Мінскі дзяржаўны абласны вучэбна-метадычны кабінет) З. Новікава, намеснік старшыні Уздзенскага райвыканкама М. Лапотка, якія падкрэслілі вялікае значэнне вышэйназванай экспедыцыі. Дырэктар школы З. Жукоўская расказала пра ўдзел школы ў спартакіядах (пераможца за 2003/2004, 2004/2005 навучальныя гады), у рэспубліканскім конкурсе «Дзень Зямлі. Беларусь – 2004», розных абласных і раённых турыстычных злётах, навукова-практычных канферэнцыях, інтэлектуальных гульнях, дзе выхаванцы дабіліся нямала прызоў і грамат. Кіраўнік турыстычнага гуртка раённага цэнтра дзіцячага турызму і экскурсій І. Ткачэнка правёў мультымедыйную завочную экскурсію «Мая радзіма – Уздзеншчына», у час якой расказаў пра вядомыя помнікі прыроды, архітэктуры і культуры краю, пра іх шматлікіх ураджэнцаў (Я. Наркевіч-Ёдка, К. Крапіва і інш.), што складаюць славу ўсёй Беларусі. Намеснік дырэктара згаданай школы С. Ус пазнаёміла прысутных з арганізацыяй работы ўстановы па накірунках экспедыцыі «Наш край». У рускамоўнай СШ № 1 імя А. Пушкіна, што бярэ пачатак з 1864 г. як народная школа, з якой выйшла сем паэтаў, шмат навукоўцаў, педагогаў, медыкаў і інш., прадоўжылася знаёмства з эколага-біялагічнай работай уздзенцаў па накірунку экспедыцыі «Прыродная спадчына», а таксама ўвазе ўдзельнікаў семінара быў прапанаваны ўрывак са школьнай праграмы КВЗ па азначанай тэматыцы.

Пасля адбылося невялікае падарожжа па Уздзеншчыне – пераезд у Хатлянскую СШ, што з'яўляецца апорнай па турыстычна-краязнаўчай дзейнасці, лепшай па арганізацыі работы школьных музеяў (яе музей двойчы пацвердзіў званне народнага). Адпаведна, тут удзельнікі семінара сканцэнтравалі сваю ўвагу на арганізацыі работы краязнаўчага музея на выхаванні грамадзяніна і патрыёта, а таксама арганізацыі пошукавай работы «Слаўныя імёны Уздзеншчыны» па накірунку экспедыцыі «Слаўныя імёны Бацькаўшчыны», з чым натхнёна пазнаёміў школьны кіраўнік гісторыка-краязнаўчага музея С. Кананові.

З Хатлян быў пераезд у в. Дзешчанка, дзе цяпер абладжваецца аграгарадок і летась пачала дзейнасць на базе васьмігадовай школы новая, дзесяцігадовая. Больш, гэтая ўстанова «Дзешчанская дзяржаўная агульнаадукацыйная сярэдняя школа» у поўным сэнсе новая. Нельга было не любавацца яе архітэктурным воблікам, шыкоўнымі матэрыяламі, мастацкім аздабленнем. Умеем і можам ладзіць цудоўныя будынкі для школ! Зразумела, дырэктар Р. Нямчонак з гонарам паказала прасторныя і светлыя класы (у іх цяпер навучаецца 207 вучняў з 13 вёсак, але ёсць усе магчымасці павялічыць колькасць навучэнцаў), расказала пра інавацыйныя падыходы да арганізацыі краязнаўчай работы ў сельскай школе ў рамках экспедыцыі «Наш край». Тут жа, у гэтай школе, адбылося пленарнае пасяджэнне, падвядзенне вынікаў.

У дакладзе З. Новікава падрабязна і грунтоўна расказала пра разнастайную турыстычна-краязнаўчую работу, што праводзіцца ў школьных установах Мінскай вобласці, адзначыла не малыя поспехі, якіх вобласць дабілася сярод іншых абласцей, а таксама акрэсліла новыя накірункі ў рабоце. Пасля сваімі думкамі і развагамі падзяліліся многія ўдзельнікі семінара, выказаўшы меркаванне, што такія семінары трэба праводзіць часцей, а школьную турыстычна-краязнаўчую работу прадаўжаць і абнаўляць, знаходзіць магчымасці, каб яна, нялёгкая і карпатлівая, заўсёды патрэбная, набывала большую публічнасць.

У рабоце семінара прыняў удзел і выступіў з прамовай намеснік галоўнага рэдактара «Краязнаўчай газеты» пісьменнік Г. Далідовіч.

**Наш кар.**




***(Першыя публікацыі ў №№ 6–7, 10–11)***

### *Маршрут 7*

**Мінск – урочышча Курапаты – Дроздава – Малінаўка – Лясны – Узбор'е – спарткомплекс Раўбічы – скрыжаванне дарог ля Астрашыцкага Гарадка**

Падрыхтоўка да падарожжа:

1) дамовіцца аб наведанні музея вайсковай славы ў Бараўлянскай гімназіі па тэл. (017) 202-39-91, 202-41-96;

2) дамовіцца аб наведанні этнаграфічнага музея ў былым раўбіцкім касцёле па тэл. (017) 507-44-68, 507-44-69 (музей працуе з 10 да 17 гадзін, выхадныя – панядзелак, аўторак).

| | |
|---|---|
| *Мінск – аўтастанцыя «Зялёны Луг-6»* | *0 км* |
| *Лясны масіў Курапаты* | *1 км* |
| *Дроздава – насып вузкакалейкі* | *2 км* |
| *Малінаўка – царква на могілках* | *3 км* |
| *Лясны – царква* | *4 км* |
| *Лясны – гімназія – музей вайсковай славы* | *1 км* |
| *Лясны – касцёл* | *0,5 км* |
| *Спарткомплекс Раўбічы – стрэльбішчы* | *7,5 км* |
| *Спарткомплекс Раўбічы – трампліны, музей этнаграфіі ў касцёле* | *0,5 км* |
| *в. Раўбічы – месца сядзібы Раўбічы* | *1,5 км* |
| *Астрашыцкі Гарадок – помнік-танк* | *4 км* |
| *УСЯГО* | ***25 км*** |

Ад аўтастанцыі «Зялёны Луг-6» ідзем уздоўж жылых дамоў да лясного масіву і пераходзім па падземным тунелі Мінскую кальцавую дарогу. Адразу трапляем на мемарыял «Курапаты». Ад вялікага драўлянага крыжа з надпісам «Пакутнікам Беларусі» пачынаецца сцежка, якая ідзе ўгору. Абапал яе пастаўлены шэрагі крыжоў, якія ўтвараюць сапраўдны крыжовы шлях. На пад'ёме да вяршыні пагорка пастаўлены памятныя знакі і крыжы ад некалькіх арганізацый, а таксама лава памяці ад беларусаў ЗША. Па ўсёй тэрыторыі лесу, дзе, пачынаючы з 1937 г. адбываліся масавыя расстрэлы людзей, у тым ліку шматлікіх прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, пастаўлены драўляныя і металічныя крыжы. У цэнтры масіву на вяршыні пагорка пастаўлены камень з надпісам аб стварэнні мемарыяла «Курапаты» і высокія крыжы.



***Мемарыял ва ўрочышчы Курапаты***



***Дом непадалёк ад Раўбічаў***

Вяртаемся да памятнага крыжа ў пачатку мемарыяла і ўздоўж усходняга краю лясного масіву ідзем сцяжынкай угору, дзе на невялікім кавалку зямлі ствараецца унікальны комплекс намаляваных на валунах абразоў хрысціянскіх святых. Аўтар гэтай ідэі – мастак Анатоль Кузняцоў. Тэрыторыя паміж камянямі афармлена сцяжынкамі і абсаджана кветкамі.

Пераходзім дарогу Калодзішчы – Заслаўе і па асфальтаванай дарозе праз лес выходзім да катэджавага пасёлка Дроздава, які абкружыў з усіх бакоў невялікую лясную вёску з такой самай назвай. Ідзем па галоўнай дарозе пасёлка амаль да самага яго канца і збочваем направа на вуліцу, якая ад катэджаў ідзе проста ў лес. Прайшоўшы па ёй, можна заўважыць, што гэтая дарога ідзе па спецыяльным насыпе ў лесе – гэта траса былой вузкакалейнай чыгункі, якая мела вялікае значэнне для Мінска: па ёй ад торфапрадпрыемства «Цна» (за 2 км на захад ад Дроздава, цяпер пасёлак Цна) здабыты і апрацаваны там торф перавозілі на Мінскую цеплаэлектрастанцыю (знаходзілася побач з сучасным цыркам і называлася «Эльвод» – яе будынкі захаваліся (пр. Незалежнасці, 32а); пасля Вялікай Айчыннай вайны траса была скарочана да Камароўскай ЦЭЦ, якая размяшчалася ў будынку па сучасным адрасе вул. Б. Хмяльніцкага, 6). Траса вузкакалейкі выходзіла з лесу да пасёлка Баравая і ішла ўздоўж Лагойскага тракту і вул. Я. Коласа.

Пасля кіламетровага шпацыру па трасе вузкакалейкі выходзім на скрыжаванне з лясной дарогай і павarочваем на яе налева. Старая занядбаная дарога паступова ідзе ўніз і праз кіламетр выходзіць на поле. Палявой сцежкай выходзім на вуліцу вёскі Малінаўка. Тут па правы бок знаходзяцца старыя могілкі з мураванай Спаса-Праабражэнскай царквой на іх. Яна мае арыгінальную цэнтрычную кампазіцыю ў выглядзе 6-кантовіка, зверху накрыта цыбулепадобным купалам. Храм быў узведзены ў 1793 г., пасля занядбання адноўлены ў 1990-я.

Ад вёскі Малінаўка па асфальтавай дарозе, якая перасякае новую трасу Віцебскай шашы, а затым праходзіць праз катэджавы пасёлак Бараўляны, кіруемся ў пасёлак Лясны. За старой Лагойскай шашой збочваем направа да Траецкай царквы.

Драўляная царква Святой Тройцы ўзведзена ў канцы 1990-х. Побач з ёю нядаўна пастаўлены мураваны крыжова-купальны храм вялікіх памераў.

Калі вярнуцца ад царквы назад, перайсці дарогу і заглыбіцца ў кварталы шматпавярховых жылых дамоў пасёлка Лясны, можна патрапіць да Бараўлянскай гімназіі. У ёй знаходзіцца музей вайсковай славы, экспазіцыя якога прысвечана абароне паўночных рубяжоў Мінска ў чэрвені 1941 г., вызваленню горада і яго ваколіц у 1944 г., землякам – удзельнікам Другой сусветнай вайны.

Агледзеўшы музей, кіруемся на паўночную ўскраіну пасёлка, дзе на пагорачку ў 2003 г. узведзены невялікі драўляны касцёл Маці Божай Успамогі Хрысціянаў. Яго будынак мае форму крыжа, вежачка над уваходам завершана шпілем і крыжам.

Ад касцёла ідзем у праціглеглы ад трасы Мінск–Лагойск бок да сярэдняй школы. За ёй узлескам ідзе жвіраваная дарога, якая спускаецца ў нізіну, бярэцца правей і ўваходзіць у лес. Па ёй пешшу ходзяць дачнікі да сваіх лецішчаў каля вёскі Узбор'е.

*(Заканчэнне будзе)*





*Як складваюцца абставіны і падзеі сёлетняга года, 2006 павінен стацца краязнаўчым годам! У лютым мы адзначылі 80-годдзе І Усебеларускага краязнаўчага з'езда, уганаравалі памяццю 990-годдзе «Аповесці мінулых гадоў» (3 студзеня), 200-годдзе Канстанціна Тышкевіча (17 лютага), 145-годдзе Яўхіма Карскага (1 студзеня), 125-годдзе Рамуальда Зямкевіча (7 лютага), 110-годдзе Кандрата Крапівы (4 сакавіка), 100-годдзе Міколы Улашчыка (14 лютага), 85-годдзе Івана Мележа (8 лютага) і Івана Шамякіна (30 студзеня), 70-годдзе Генадзя Каханоўскага (8 студзеня), 50-годдзе беластоцкага штотыднёвіка «Ніва» (4 сакавіка). Наперадзе нас таксама чакаюць памятныя падзеі, звязаныя з вывучэннем краю: 210-годдзе Яна Чачота (7 ліпеня), Тамаша Зана (21 снежня) і Міхаіла Без-Карніловіча (10 кастрычніка), 180-годдзе Паўла Шэйна (27 жніўня), 175-годдзе Міхася Ельскага (8 кастрычніка), 165-годдзе Элізы Ажэшкі (6 чэрвеня), 150-годдзе Часлава Пяткевіча (20 ліпеня) і Уладзіміра Дабравольскага (11 жніўня), 130-годдзе Алаізы Пашкевіч-Цёткі (15 ліпеня) і Яна Булгака (6 кастрычніка), 125-годдзе Усевалада Ігнатоўскага (19 красавіка) і Івана Луцкевіча (9 чэрвеня), 120-годдзе Змітрака Бядулі (18 красавіка), 115-годдзе Максіма Багдановіча (9 снежня), 100-годдзе з часу правядзення першага нелегальнага з'езда настаўнікаў Менскай губерні ў в. Мікалаеўшчына (9–10 ліпеня), газеты «Наша ніва» (23 лістапада), Эдуарда Галубка (13 траўня) і Міхася Кацара (7 лістапада), 85-годдзе стварэння ў Заходняй Беларусі ТБШ (7 снежня), 80-годдзе Янкі Запрудніка (9 жніўня), 75-годдзе Ніла Гілевіча (30 верасня), 70-годдзе Генадзя Бураўкіна (28 жніўня), Эрнеста Ялугіна (19 лістапада) і Міхася Піліпенкі (19 траўня) і інш.*

# Краязнаўства
## і грамадзянскае выхаванне

З пачатку сучаснага адраджэння створана нямала цудоўнай літаратуры, якая працуе на развіццё нацыянальнай свядомасці. Гэта, найперш, шматлікія энцыклапедычныя і мастацка-літаратурныя выданні, першыя дапаможнікі па гісторыі народа, напісаныя лепшымі яго прадстаўнікамі, розныя серыі, напрыклад, «Беларуская народная творчасць» (каля паўсотні тамоў), 145-томнае выданне гісторыка-дакументальнай хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі «Памяць» і г.д. Падобнага не мае ні адна краіна ў свеце. Але нам і гэтага недастаткова. Мы даволі адсталі ад іншых у нацыянальна-культурным развіцці, выхаванні нацыянальнай свядомасці.

Аднаўляецца дзейнасць краязнаўчага таварыства, выпускаецца «Краязнаўчая газета», у адным накірунку працуюць розныя грамадскія і дзяржаўныя ўстановы. У Гомельскім дзяржаўным універсітэце складаюцца цудоўныя фальклорныя зборнікі. Анатоль Атнагулаў стварыў раней і бадай лепшае выданне «Хроніка Убарцкага Палесся» (2001) за гістарычна-дакументальную хроніку «Памяць» (2002) таго ж Лельчыцкага раёна. Добры плён маюць краязнаўцы ў розных раёнах Беларусі. Варта толькі, напрыклад, зазірнуць у краязнаўчы, гісторыка-літаратурны часопіс «Лідскі летапісец» (заснавальнік В. Сліўкін, рэдактар С. Суднік), што выпускаецца з 1997 г., або ў «Віцебскі сшытак» (выданне Віцебскага абласнога краязнаўчага музея і Віцебскага абласнога краязнаўчага аб'яднання), які вядомы з 1995 г. У прыгаданых рэгіёнах, акрамя таго, выходзіць «Краязнаўчая газета» (выданне краязнаўцаў Гродзеншчыны з 2000 г.). Уражальныя поспехі маюць краязнаўцы Паазершчыны, дзе шчыруе выдавецкая ініцыятыва «Сумежжа». Прыгадаем выданне старшыні ТБШ у Пухавіцкім раёне Наталлі Ільініч «Талька і наваколлі: краязнаўчыя нататкі пра Тальку, Арэшкавічы, Блужу, Мацеевічы, Суцін» (Мн., 2004), а таксама лунінецкіх настаўнікаў-краязнаўцаў Івана і Ларысы Панасюкоў «Лунінецкі раён: Чырвоны сшытак. Прырода і ахоўваемыя тэрыторыі» (Мн., 2004), Васіля Туміловіча «Нарысы даціроўкі манет», «Тапаніміка Кажан-Гарадка і яго зямель» (2001), «З фальклорных крыніц Кажан-Гарадка» (2003), Сцяпана Нефідовіча і інш. Яны актыўна друкуюцца ў «Лунінецкім сшытку», што рыхтуе Вадзім Жылко з 2002 г. Звяртае ўвагу яшчэ той фактар, што многія кнігі беларускіх аўтараў прысвечаны не толькі раёнам, гарадам, але і асобным вёскам.

І ўсё-такі адчуваецца неадпаведнасць паміж узроўнем навукі пра краязнаўства, яе сучасным патэнцыялам нават на раённай ступені развіцця і практыкай яе прымянення ў адукацыйных установах, запатрабаванасцю грамадствам. Наспела неабходнасць у поўнай меры выкарыстаць назапашаны патэнцыял у асвеце. **Фарміраванне грамадзянскай супольнасці праз далучэнне вучнёўскіх, студэнцкіх і настаўніцкіх калектываў да краязнаўчай працы** – так можна сфармуляваць мэту праекта, вылучаемага грамадскага руху. Асноўныя яго задачы:

• прыцягненне шырокай грамадскасці, асабліва вучнёўскай, студэнцкай, настаўніцкай да вывучэння свайго краю не толькі праз хроніку «Памяць», але і праз практычны збор новых матэрыялаў, удакладненне іх;

• арганізацыя творчых студэнцкіх груп і настаўніцкіх калектываў па складанні для кожнага раёна і горада Беларусі праграмы да інтэграванага курса па краязнаўстве (тыпу «Валожыншчыназнаўства», «Мінсказнаўства», «Оршазнаўства», «Аршаншчыназнаўства»), выпрацоўкі актыўнай методыкі, выпуску адпаведных дапаможнікаў;

• правядзенне краязнаўчых семінараў і канферэнцый;

• выхаванне любові да малой радзімы, хваляванне за яе лёс, выхаванне патрыёта і грамадзяніна, актыўнага супольніка.

Нельга сказаць, што гэта нешта зусім новае. У недалёкай гісторыі ўтварэння БССР і нядаўняга станаўлення суверэннай Рэспублікі Беларусь функцыянавалі розныя курсы «Беларусазнаўства» як у сярэдніх навучальных установах, так і вышэйшай школе. Вылучэнне спецыяльнага накірунку ў краязнаўстве можна лічыць працягам і новым прыярытэтным віткам у нацыянальна-патрыятычным выхаванні.

«Асаблівае месца ўдзяляецца краязнаўча-патрыятычнаму выхаванню, якое стане арганічнаю часткай сістэмы выхаваўчай працы, – дэкларуецца ў выступленні начальніка Мінскага гарадскога ўпраўлення адукацыі, дзе распавядаецца аб Праграме развіцця адукацыі горада Мінска да 2010 г. – Асновай для гэтага стане развіццё ў школьнікаў нацыянальнай самасвядомасці, прыцягненне дзяцей да нацыянальнай культуры, увядзенне факультатыўнага курса «Минсковедение», стварэнне краязнаўчых і этнаграфічных музеяў». Цудоўна! У тым жа нумары (за студзень 2004 г.) выдання «Столичное образование: научно-методический журнал» пададзеныя на рускай мове матэрыялы па ўвядзенні курса «Минсковедение» у пачатковай і сярэдняй школах, распрацаваныя педагогамі-навукоўцамі сталічнага інстытута адукацыі. Вось вам і лыжка дзёгцю ў бочцы мёду! Як яшчэ кажуць – прыехалі. І гэта сцвярджаюць педагогі – развіваць нацыянальную самасвядомасць, «фарміраваць асобу грамадзяніна і патрыёта, які беражна адносіцца да каштоўнасцей сваёй Айчыны» на... рускай мове (?!). Нягледзячы нават на тое, што, напрыклад, рэкамендуемая літаратура прадстаўлена на роднай мове, у праграме 5–6 класаў толькі адна пазіцыя па-руску.

Рэкамендуецца ў першым класе праводзіць заняткі 1–2 разы на месяц. Прадугледжваецца вывучэнне гісторыі Мінска ў 5–10 класах па 9 гадзін, пажадана канцэнтравана ў адным паўгоддзі (або сінхронна ў адпаведнасці з курсам роднай гісторыі).

Як сведчыць айчынны і сусветны досвед, менавіта патрыятычна-краязнаўчы накірунак з'яўляецца прыярытэтным у станаўленні асобы, грамадзяніна, патрыёта, што ў канчатковым выніку прыводзіла народ, нацыю да прыняцця якасных змен у жыцці, а названыя групы сумесна з асноўнымі працоўнымі масамі былі самымі рашучымі, свядомымі і актыўнымі ў эвалюцыйных працэсах грамадства.

Не малы досвед краязнаўчай працы назапашаны ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка. Факультэт народнай культуры быў створаны ў ім у самы размах новай адраджэнскай пары, у 1994 г., на аснове трох кафедр – этналогіі і фалькларыстыкі, мастацкай і педагагічнай адукацыі, фізкультурна-масавай і аздараўленчай працы. Беларусазнаўчым накірункам дзейнасці асабліва вылучаецца першая, што рыхтуе спецыялістаў сусветнай і айчыннай культуры, кіраўнікоў фальклорных калектываў. Калі раней будучых фалькларыстаў рыхтавалі філфакі, дзе вусная народная творчасць вывучалася толькі адзін семестр, то цяпер гэтая функцыя ў большай ступені ўпэўнена пераходзіць менавіта да згаданай кафедры, дзе разнастайныя дысцыпліны фальклорнага цыклу вывучаюцца на працягу пяці гадоў, у тым ліку краязнаўства, музеязнаўства і інш. За невялікі перыяд склаўся творчы педагагічны калектыў і сістэма працы са студэнцкай моладдзю, якая прадстаўляе ўсе рэгіёны Беларусі, па актывізацыі будучых настаўнікаў у зборы і сістэматызацыі краязнаўчага матэрыялу свайго раёна, горада. Вызначым асноўныя этапы творчай працы без падрабязнай дэталізацыі і варыянтнасці выканання.

На першых-трэціх курсах ідзе набыццё агульных ведаў па краязнаўстве і сумежным цыкле дысцыплін, напісанне рэфератаў, збор матэрыялу, асабліва на фальклорна-этнаграфічнай і музейнай практыках. Наступны этап (4 курс) – напісанне курсавой працы краязнаўчай тэматыкі, затым (5 курс) па методыцы выкладання культуралагічных дысцыплін ці кіравання фальклорным калектывам, магчымае апрабаванне яе на педагагічных практыках і практыках у фальклорных калектывах. Апошняе ў ВНУ – гэта абагульненне і сістэматызацыя матэрыялу па стварэнні дыпломнага праекта, тыпу «Валожыншчыназнаўства», а практычнае апрабаванне яго лепш праводзіць на новым месцы працы, дзе адбываецца папаўненне матэрыялу, карэкціроўка праграмы, укараненне ў адукацыйным працэсе.

На факультэце народнай культуры сабраны не малы архіў студэнцкіх прац па краязнаўстве. 22 красавіка ў БДПУ адбудзецца Рэспубліканская навукова-метадычная канферэнцыя «Краязнаўчая адукацыя і грамадзянскае выхаванне». Канферэнцыі і семінары з падобнай тэматыкай былі праведзены ўжо сёлета з лунінецкімі, валожынскімі, мінскімі (раён) настаўнікамі і краязнаўцамі, надрукаваны асобнымі выданнямі матэрыялы інтэграваных курсаў «Валожыншчыназнаўства», «Стаўбцоўшчыназнаўства», падрыхтаваны да выдання «Лельчышчыназнаўства» (Убарцка-Палескае краязнаўства), «Лунінеччыназнаўства», «Заслаўезнаўства», «Праграма этнасада».

Краязнаўчая адукацыя выходзіць на новыя рубяжы.

*Алесь ЛОЗКА,*
*старшыня РГА «Таварыства беларускай школы»*



Фота Міколы ШВАВАРА

**Ад рэдакцыі.** *Шчыра дзякуем Алесю Лозку за грунтоўны (і, галоўнае, аналітычны) матэрыял. Просім прабачэння за невялічкае яго скарачэнне, якое, спадзяемся, не паўплывала на змест.*

# Славянскае гарадзішча — Старое сяло

**_Даўно гэта было, мо больш 2000 гадоў таму. Уся тэрыторыя роднага краю была пакрыта густым, непраходным лесам. І толькі блакітныя плямы азёр, стужкі рэк і дрыгвяністыя балоты парушалі гэтую зялёную суцэльнасць. Роўнядзь вадаёмаў адлюстроўвала белыя аблокі ды схіленыя дрэвы і хмызнякі. У лясным гушчары вадзілася мноства рознага звяр'я і птушак, а рэкі і азёры кішэлі рыбай._**

І вось аднойчы па шырокай рацэ, якая цяпер называецца Заходняй Дзвіной, на плытах плылі людзі. Нейкае племя шукала сабе зручнае месца для пасялення. Здалёк ужо яны заўважылі высокі стромкі бераг. Месца іх вельмі зацікавіла. Прыпынйўшы плыты, людзі падняліся на ўзгорак і ўбачылі роўную пляцоўку, якую можна было абжыць. Пляцоўка была невялікая, таму ўмацаваць яе было не вельмі цяжка, бо з поўначы і ўсходу яе агінала даволі паўнаводная рэчка.

Людзі насыпалі валы, пабудавалі драўляныя сцены, выкапалі зямлянкі. Так у нашым краі ўзнікла славянскае гарадзішча. Можна меркаваць, што гэтае племя прыйшло з дунайскіх стэпаў, бо шырокую раку яны назвалі Дунай, а меншую Дунавец, возера ж, дзе пачыналася гэтая рэчка, было названа Дунавесі.

Жыццё на гарадзішчы ішло даволі інтэнсіўна. Мужчыны палявалі на лясного звера, лавілі рыбу, будавалі плыты, карчавалі лес. Жанчыны збіралі дары лесу, гатавалі ежу ды гадавалі дзяцей. Людзі выраблялі посуд з гліны і дрэва, а потым і прылады працы з жалеза, якое выплаўлялі з балотнай руды. Навучыліся вырошчваць жыта, сеялі лён.

Прыкладна ў III стагоддзі н.э. людзі пакінулі гарадзішча, затое на беразе рэчкі Дуны з'явілася паселішча Пераброддзе. У V стагоддзі яно чамусьці таксама знікае. Існуе шмат версій, але дакладна нікому не вядома, чаму людзі пакінулі абжытыя мясціны.

У VIII стагоддзі на гэтым месцы ўзнікла новае паселішча, якое ў народзе захавалася пад назвай «Старое Селішча» або «Стараселле». А потым ля яго ўзнік панскі маёнтак Стараселле. І ўсё паселішча сталі называць Старым Сялом. Так узнікла назва нашай вёскі.

Шмат чаго змянілася з таго часу. Можа, толькі бераг ракі адступіў больш на поўдзень, схіл стаў менш стромкі, абмялела рэчка, што ўецца ў падножжы, ды парадзелі хмызнякі на схілах кургана.

*Запісала Маргарыта* **ЮШКЕВІЧ**, *Віцебскі раён*



*Вёска Пелікань на Браслаўшчыне мела незвычайную назву. Паселішча адзначанае Т. Макоўскім на знакамітай карце ВКЛ. Стагоддзе таму тут пабудавалі: касцёл Святога Якуба, выяву якога даслаў нам фатограф і ветэран вайны з Відзаў Кірыла ЧАЛКІН*

# Вілейшчына бардаўская

***Вілейшчына дала Беларусі шмат таленавітых людзей. Гэта пісьменнікі (Дзмітрый Новікаў, Іван Лашутка, Ганна Новік), мастакі (Нікадзім Сілівановіч, Юрый Герасіменка-Жызнеўскі, Барыс Цітовіч), навукоўцы (Адам Грымаць, Мікалай Маліноўскі, Сымон Барыс)... Небагатая Вілейшчына хіба што на імёны вядомых музыкаў, але яны ёсць. Напрыклад, Міхась Казінец – народны артыст Беларусі, прафесар, мастацкі кіраўнік і дырыжор Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь. А Юрый Корсак – піяніст, прафесар, заслужаны артыст Беларусі. Валерый Скаражонак – спявак, дырэктар дзяржаўнага ансамбля «Песняры». Але ж нельга не адзначыць нароўні з пералічанымі музыкамі і бардаў, якія, можа, не такія вядомыя ўсёй Беларусі, ды ў сваім асяродку прызнаныя.***

***Па сваім азначэнні бардаўская песня – гэта непрафесійнае выкананне ў большасці ўласных тэкстаў на ўласна напісаную музыку. Хоць часам выкананне бардаў не саступае сваім майстэрствам нават музыкам з дыпломам. Прывесці хаця б да прыкладу барда і паэта Эдуарда Акуліна з яго ным чыстым і мілагучным голасам, ці таго ж Данчыка (Багдана Андрусішына). Вілейшчына з'яўляецца радзімай не аднаго барда, хто здолеў заявіць пра сябе як у Беларусі, так і за яе межамі.***

**Алесь Наркевіч**. Ён нарадзіўся ў 1969 годзе. Яшчэ ў дзяцінстве ў яго выявіліся схільнасці да паэзіі.

*– Першы верш быў напісаны па-руску,* – прыгадвае Алесь. – *У школе папрасілі на батаніцы напісаць што-небудзь пра вясну. Я напісаў чатыры радкі, якія пасля змясцілі нават у сценгазеце.*

Прыкладна ў той жа час Алесь пазнаёміўся і з гітараю.

*– Гітару я даўно ўзяў, але і дагэтуль не навучыўся на ёй іграць так, як хацеў бы.*

Ішоў час. Алесь з 1987 па 1990 служыў на флоце. Перад адыходам у войска дамовіўся з сябрамі пісаць лісты адзін аднаму па-беларуску.

*– Аднаго сябра Савецкая Армія закінула ў Чыту. Я быў на Сахаліне. Нехта ў Прыбалтыцы, Германіі. А вакол – савецтызм. Зразумела, што Беларуссю там і не пахла.*

Так і атрымалася толькі па пары беларускіх лістоў. Пасля войска Алесь пачаў знаёміцца з беларускімі песнямі. Пісаў свае вершы і песні па-беларуску. Але людзям было тады не да спеваў. Таму выступаць надаралася толькі ў невялікіх кампаніях перад знаёмымі. Трэба адзначыць, што Алесь спявае выключна свае песні.

Добра памятае А. Наркевіч свой першы выступ перад шырокай аўдыторыяй.

*– У вёсцы Нарача гэта адбылося ўпершыню. Як высветлілася, у клубе была музычная апаратура, патрэбная для запісаў. А Зміцер Абразцоў ведаў дырэктара клуба. І мы вырашылі са Зміцерам запісаць там на сваёй касеце. Паехалі. Дырэктар даў дазвол на выкарыстанне апаратуры. Пачалі запісвацца.* А дырэктар аднойчы пытае (яны рыхтаваліся да нейкага свята), ці не жадаем мы выступіць. Тады я ўпершыню і выйшаў на публіку.

Кожны год на Крапіўніцкім полі на ўгодкі Аршанскай бітвы праходзіць нефармальны бардаўскі фестываль. Там збіраюцца ўсе ахвочыя паспяваць; яны ж самі пасля і вызначаюць пераможцу. У 2004 годзе пераможцам з-пад Оршы з'ехаў Алесь Наркевіч. А крыху пазней ён стаў удзельнікам штогадовага фестываля «Бардаўская восень», што праходзіць у Польшчы. Але заняць адно з трох прызавых месцаў там не здолеў. Праўда, і мэты такой перад сабой не ставіў. Ехаў проста паспяваць. Як кажуць, сябе паказаць ды на людзей паглядзець.

У красавіку Вілейку наведалі пісьменнікі Вольга Іпатава і Павел Сакович. На гэтай сустрэчы выступаў і А. Наркевіч. Ягоныя спевы так спадабаліся Вользе Міхайлаўне, што яна вырашыла запрасіць барда выступіць на адной з вечарын у Мінску. Але з-за адсутнасці вольнага часу Алесь не змог прыехаць.

Увосень 2005 года Алесь выступіў на фестывалі «Крэўскія камяні–2005». Акрамя гэтага, штогод праходзяць яго канцэрты ў Вілейцы.

**Зміцер Абразцоў.** Яго можна назваць «генератарам ідэй». Ён шукае ўсялякія магчымасці, каб данесці да людзей бардаўскую песню. І ў першую чаргу «прасоўвае» творчасць свайго сябра Алеся Наркевіча. Зміцер уласных тэкстаў не піша. На словы беларускіх паэтаў піша музыку і затым выконвае гэтыя песні. Любіць ён паэзію Наталлі Арсенневай, Антаніны Хатэнкі, Уладзіміра Караткевіча... Ягоныя маршы захапілі ў палон не аднаго слухача.

Зміцер Абразцоў – адзін з ініцыятараў дабрачынных канцэртаў у Вілейскім раёне. Разам з бардамі Алесем Наркевічам і Алесем Алесікам яны наведалі шмат вясковых клубаў. На іх канцэрты збіралася і па 100 чалавек, часам і па 20. Але ў кожным выпадку даводзілася чуць шчырыя словы ўдзячнасці. Дае канцэрты Зміцер і ў Вілейцы разам з Наркевічам. Прымае ўдзел ён у розных вечарынах. Спявае ў кампаніях сяброў.

**Алесь Алесік.** На публіцы з'яўляецца рэдка. Тлумачыцца гэта ягонай занятасцю. Хоць ягоны ўзровень гульні на гітары даволі высокі.

**Зміцер Казлоўскі** з'яўляецца прадстаўніком маладога пакалення бардаўскай рок-песні. У мінулым годзе дваццацігадовы бард стаў удзельнікам ужо згаданай «Бардаўскай восені». І хоць ён не быў адзначаны журы як лепшы выканаўца, але трапіў на вочы да прадзюсера Ігара Зныка. Апошні прапанаваў Зміцеру зрабіць прафесійны запіс у студыі і выступіць з канцэртамі ў Польшчы. Ужо на пачатку 2006 года з'явіліся запісы 8 песень.

І тым не менш, быць бардам сёння не вельмі прэстыжна. Куды лепш успрымаецца калектыўнае выкананне. На пытанне: «Ці няма ў планах сабраць свой гурт?», Зміцер адказвае:

*– Пакуль што гэтым не займаюся. Можа, з прычыны свайго залішняга індывідуалізму. Але жаданне такое ёсць. Іншая справа, што арганізаваць сябе самога нашмат лягчэй і хутчэй. А пакуль у мяне не стае часу і на тое, каб сваю творчасць неяк наладзіць. А калі часу з'явіцца трошкі болей, то паспрабую сабраць гурт.*

Як бачым, Вілейшчына прадстаўлена ў бардаўскім асяродку даволі шырока. І гэта яшчэ не ўсё. Бо нельга не адзначыць імя **Уладзіміра Цануніна**, які сёлета на «Бардаўскай восені» стаў адным з пераможцаў. Уладзімір Цанунін – адзін з удзельнікаў ансамбля «Элегія», якому нададзена званне народнага.

***Унёсак Вілейшчыны ў развіццё бардаўскай песні вялікі. І невядома яшчэ, якіх вышынь здолеюць дасягнуць барды гадоў праз дзесяць. Можа, Вілейка стане цэнтрам беларускага бардаўскага руху, а можа нават і еўрапейскага. Ва ўсялякім выпадку будзем на гэта спадзявацца, бо іншага не выпадае.***

*Сяргей* **МАКАРЭВІЧ**, *студэнт журфака БДУ*



*Зміцер Абразцоў (другі злева) і Алесь Наркевіч (другі справа) на агульным здымку; Зміцер Казлоўскі (фота злева)*

*Алесь* **НАРКЕВІЧ**

***

*Затулілася неба ў хмары.*
*Вось ізноў надышла зіма.*
*Безнадзейна сумуе старасць,*
*Што дзяцінства ўжо няма.*

*У марозна-самотным свеце*
*Разлілася нуда наўсцяж.*
*Зараз сонца не гэтак свеціць.*
*Ды і зоры гараць інакш.*

*Бессэнсоўных і мітуслівых*
*Дзён няпэўных згубіўся след.*
*І ўжо не хапае сілы*
*Фарбаваць чорна-шэры дзень.*

*Адляцелі пеўныя птушкі.*
*Ноч маўклівая засціць мой край.*
*Ах, Радзіма мая – Папялушка!*
*Казка спета. Прабач і бывай.*

*Не паспелі, ізноў не паспелі,*
*У камедыі той жа фінал.*
*Мары лісцем сухім абляцелі.*
*На душы чорным камнем віна.*





## Красавік

**3 – Рычард Смольскі (1946)**, тэатразнавец – 60 гадоў з дня нараджэння.

**5 – Раман Тармола (1936)**, паэт – 70 гадоў з дня нараджэння.

**6 – Аркадзь Саўчанка (1936)**, спявак – 70 гадоў з дня нараджэння.

**7 – Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі**, грамадская арганізацыя – 80 гадоў з часу стварэння.

**14 – «Минский листок»**, першая на Беларусі прыватная грамадска-палітычная і літаратурная газета (Мінск, 1886–1902), у якой упершыню (1889) была апублікавана ананімная паэма «Тарас на Парнасе» – 120 гадоў з часу заснавання.

**24 – Беларуская дзяржаўная сельскагаспадарчая акадэмія**, першая ў Беларусі і Расіі вышэйшая сельскагаспадарчая школа (Горкі; 1836) – 170 гадоў з часу заснавання.

**26 – Чарнобыльская катастрофа** (1986), адна з найбуйнейшых у свеце аварый на атамных электрастанцыях – 20 гадоў.

## «Цуды свету» па версіі ЮНЕСКО

Пад эгідай ЮНЕСКО адбылася рэгістрацыя самых каштоўных помнікаў культуры чалавецтва. Спачатку іх было 630, а пасля адбору засталося 23. Кандыдатамі на статус «цудаў свету» сталі наступныя аб'екты: Вялікая Кітайская сцяна, маўзалей Тадж-Махал, палац Потала ў Тыбеце, старажытны горад Тана ў Йемене, горад Цімбукту (Малі), храм Святой Сафіі ў Стамбуле (Турцыя), маскоўскі Крэмль і Красная плошча, рымскі Калізей, Пізанская вежа, Палац дожаў у Венецыі, Аахенскі сабор у Германіі, Эйфелева вежа, Версальскі палац і парк, замак Альгамбра ў Іспаніі, статуя Свабоды ў ЗША, піраміды ў Чычэн-Іцы (Мексіка), статуі на астравах Пасхі, Сіднэйская опера, царква Святога сямейства (Іспанія), «Эмпайр стэйт білдынг» (ЗША), мост «Залатыя вароты» у Сан-Францыска, горад інкаў Мачу-Пікчу (Перу), храм Апкорват (Камбоджа).

Асобныя краіны таксама пачалі вызначацца са сваімі «цудамі свету». Напрыклад, Вялікабрытанія ўключае ў гэтую намінацыю: будынак брытанскага парламента і Біг-Бэн, Стоўнхэндж, Віндзорскі замак, аранжарэю «Райскі сад», кафедральны сабор у Йорку, сцяну імператара Андрыяна. У апытанні, якое правёў канал Бі-Бі-Сі, прынялі ўдзел больш за дзве з паловаю тысяч грамадзян гэтай краіны.

А што мы? Чаму б нам не папытаць сваіх суайчыннікаў: якія «цуды Беларусі» вызначаюць гістарычны і культурны воблік нашай краіны?

**ПЕРШЫМ АДГУКНУЎСЯ** на запыт «КГ» вядомы пісьменнік і краязнаўца Анатоль Бутэвіч, з-пад пяра якога выйшла пяць кніг з серыі (і пад назваю) «Сем цудаў Беларусі». На думку А. Бутэвіча, нашыя прыярытэты выглядаюць наступным чынам:

1. *Беларуская мова.*
2. *Спаса-Ефрасіннеўская царква (Полацк).*
3. *Слуцкія паясы.*
4. *Беларускае Палессе (прыродная і гісторыка-этнаграфічная спадчына).*
5. *Барыса-Глебская (Каложская) царква (Гродна).*
6. *Мірскі замак.*
7. *Рака Няміга.*

***Калегі-краязнаўцы, рэдакцыя «КГ» звяртаецца да вас з прапановай уключыцца ў апытанне шырокага кола гісторыкаў, архітэктараў, прыродазнаўцаў, этнографаў з мэтаю вызначыцца ў прыярытэтах уключэння помнікаў гісторыі і культуры Беларусі ў намінацыю «Сем цудаў Беларусі». Ваша праца магла б з цягам часу стаць вялікай дапамогай нашай дзяржаве па вызначэнні будучых прапаноў для ўключэння каштоўнасцяў Беларусі ў Спіс сусветнай спадчыны.***

***Уладзімір ГІЛЕП,***
***галоўны рэдактар***
***«Краязнаўчай газеты»***

*Ад дзядзькі Антося*




## Пра зіму, вясну і іншае

Сёлета, на пачатку года, было малавата снегу. Гэта не зусім спрыяльна, бо, як і прадбачвалі летась увосень, да канца лютага былі моцныя маразы. Цяпер варта завітаць на лецішча, каб акінуць усё вокам і ўзяць з сабой некалькі бульбін і галінак з парэчкавых кустоў, яблынь і сліў. Бульбіны – у кухню на шафік, праз пэўны час прарастуць – не змерзлі, жывыя; галінкі ў вадзе абудзяцца пупышкамі – таксама ўсё добра. Як выжылі зімовыя часнок, цыбуля, клубніцы, вінаград, некаторыя кветкі і іншае, пакажа толькі вясна. Але і самому, калі жадаеш, трэба актыўнічаць. З турботай пра насенне. Нешта маем сваё ў схаваных і пасля забытых мяшочках. Штосьці закупілі і нават пасадзілі ўжо, тое-сёе трэба яшчэ прыдбаць. І якія пры гэтым меркаванні пра насенне?



*Ні галінкі зайцам!*

*Фота Ўладзіміра ПУЧЫНСКАГА*

**Першае.** Чаму аддаць перавагу: сабранаму свайму ці куплёнаму? Пераканаўся, сваё бывае больш зачэпістае для прарастання і ўраджайнасці, паколькі звыклася з тутэйшым кліматам і зямлёй. Але тут ёсць адзін нюанс: калі вы сабралі насенне з упадабаных вамі агуркоў, кабачковых, рэдзькавых і інш., то гэта не значыць, што з пасаджанага вырасце тое ж: гэтыя культуры пераапыльваюцца, і ў выніку выходзіць гібрыд. У мяне ёсць нават мною выведзены гатунак – «Абгарбузаваны кабачок». Ён салодзей за звычайны кабачок, бо апылены гарбузом. Такія культуры, як памідоры, самаапыляюцца. Але каб і ад іх, самаапыленых, атрымаць урадлівае насенне, трэба садзіць не дзесятак, а сотні раслін.

**Другое:** што больш якаснае? Айчыннае ці імпартнае? Спачатку трэба праверыць, як насенне ўзыходзіць – скажам, з дзесяці пасаджаных. Можа, не зусім маю рацыю, але я купляю з нашага насенне белакачаннай капусты сярэдніх і позніх гатункаў, галоўкавай цыбулі, непарніковых агуркоў, памідораў, морквы. З нашага, здаецца, амаль не атрымаеш насенне такіх далікатэсаў, як качанны салат, каляровая капуста і іншыя віды (брусельская, браколі і г.д.), многіх кветак. Дзе і што з гэтага купляць, выбачайце, выбірайце самі: наш строгі шэф у «КГ» не дазволіць аніякай, нават замаскаванай рэкламы. А я, Антось, якога тут назвалі дзядзькам, свае вынікі назіранняў, вопыту, поспехаў і няўдач перадаю любімай газеце, нашым шаноўным чытачам бясплатна.

**Трэцяе.** Каб зерне спажыць для пасадкі і атрымаць жаданае, таксама патрэбны свае таямніцы. Праз «КГ» намінаю, што не ўсё насенне трэба чымсьці апрацоўваць і ўзбуджаць (скажам, па парадах нават самых знаных селекцыянераў, падкормліваць рознымі мікраэлементамі), хоць гэта для таго-сяго, выведзенага ў хатніх умовах, і патрэбна. Найперш гэта трэба рабіць для таго свайго выведзенага насення, дзе з іхнімі хваробамі трэба змагацца.

Лічу і са сваіх назіранняў: тэрміны захоўвання ўсяго насення, зерня наступныя. Кабачкова-гарбузовых-агурковых – 6–8 гадоў, бабовых – да 6-ці, рэдзькавых, капусты, буракоў, памідораў – да 6-ці, цыбулі – да 3–4, морквы – 2–3, укропу – 2–5. Найбольш уроднае насенне 2–4 гадоў. Але бывае, што некаторае насенне прарастае і... праз тысячу гадоў.

Поспеху і творчай, агародніцка-садовай удачы!

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**ВАЛОВІЧЫ** – магнацкі род герба «Багорыя». У XIX – пачатку XX стст. мелі ў карыстанні маёнткі ў Гродзенскай, Магілёўскай, Мінскай і Ковенскай губернях. Спярша былі праваслаўныя, у XVI ст. некаторыя вызнавалі кальвінізм, пасля перайшлі ў каталіцызм. У 1798–1900-х адна з іхніх галін насіла графскі тытул (згасла).

**ВАЛОЖЫН** – цэнтр аднайменнага раёна, за 75 км ад Мінска, упершыню згаданы ў XV ст. як валоданне розных знатных асоб, у тым ліку і магнатаў Радзівілаў. З пачатку XVI ст. Валожын стаў павятовым цэнтрам у Наваградскім ваяводстве, а з 1551-га ён – мястэчка ў Ашмянскім павеце Віленскага ваяводства. У 1614 г. належаў А. Служку, які заснаваў тут касцёл і кляштар бернардзінцаў (ліквідаваны ў 1864-м). З 1730-х уладанне князёў Чартарыйскіх, з канца XVIII ст. – Радзівілаў, Чартарыйскіх, Тышкевічаў. У 1806 г. заснаваны касцёл св. Юзафа. У 1806–1892 гг. тут дзейнічала яўрэйская духоўная акадэмія (іешыва). У 1897 г. было 4 533 насельнікаў. З 1921 г. у складзе Польшчы, цэнтр павета Навагрудскага ваяводства. З верасня 1939 г. у складзе БССР. Ёсць прадпрыемствы харчовай, лёгкай, дрэваапрацоўчай прамысловасці і сацыяльна-бытавога абслугоўвання. Помнікі архітэктуры: палац (1806), касцёл Св. Юзафа (1816), царква Канстанціна і Алены (1866). Працуе гісторыка-краязнаўчы музей.

Ад валожынскіх краязнаўцаў чакаем новых, сучасных звестак пра родны край.

**ВАНЬКОВІЧ** Валенцій Мельхіёравіч (1799 ці 1800 – 1842) – жывапісец, рамантык, з маладых гадоў зведаў прымінскія (каля Сцяпянкі) краявіды, вучыўся ў Полацкім езуіцкім калегіуме, у Віленскім універсітэце. Жыў у Мінску і намаляваў шмат карцін, прысвечаных гісторыі і культуры Беларусі («Подзвіг маладога кіяўляніна пры аблозе Кіева печанегамі ў 968 годзе», «Міцкевіч на скале Аюдаг» і інш). У 1839 г. выехаў за мяжу, памёр у Парыжы. У Мінску (вул. Інтэрнацыянальная, 33-а) існуе музей «Дом Ваньковічаў. Культура і мастацтва 1-й пал. XIX ст.».

**ВАНЬКОВІЧ** Ян (1834–1899) – удзельнік паўстання 1863–1864 гг. Скончыў лясны інстытут у Пецярбургу, працаваў ляснічым у Белавежскай пушчы, у 1863 г. далучыўся да антыцарскага паўстання. Пазбягаючы рэпрэсій, выехаў за мяжу, браў удзел у паўстанцкім руху ў Галіцыі. Арыштоўваўся аўстрыйскімі ўладамі. Жыў у Парыжы, Кракаве.

**ВАПНЯК** – асадкавая горная парода белага ці шэрага колеру, складзеная з кальцыту або кальцытавых рэштак арганізмаў (каралаў, імшанак, водарасцей і інш.). На Беларусі больш вапнякоў марскога паходжання (ракушнікі, мел), ёсць вапнякі прэснаводных азёр, мінеральных крыніц, засоленых поймаў. Знаходзяцца ў адкладах розных сістэм, складаюць значную частку ў Прыпяцкім прагіне, утвараюць галоўныя нафтаносныя пласты. У Віцебскай вобласці вапнякі залягаюць блізка ад паверхні, часткова распрацоўваюцца. Выкарыстоўваюцца ў будаўніцтве, металургіі, шкляной, хімічнай прамысловасці, мастацтве, архітэктуры, сельскай гаспадарцы.

**Рэдакцыя «Краязнаўчай газеты» выказвае глыбокае спачуванне былому супрацоўніку, паэту Уладзіміру Дзюбу ў сувязі са смерцю айчыма Мяшкова Мікалая Маркавіча, які шчыра і рупна замяніў яму загінулага бацьку.**

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасцай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26.
E-mail: kraga@tut.by



Падпісана да друку: 23.03.2006.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0056609 ад 27.02. 2004 г.)
Заказ 502.
Тыраж 1560.